## Наша інтэрв'ю

# ТЭАТР

## ПАЧЫНАЕ СЕЗОН

З галоўным рэжысёрам Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Б. Браганцавым мы сустрэліся за некалькі дзён да адкрыцця сезона. За кулісамі адчувалася звычайная рабочая мітусня. Пачаткі сезона, напэўна, падобны адзін да аднаго ў кожным тэатры, падумалі мы.

Быццам у адказ на гэтую нашу думку, Барыс Міхайлавіч сказаў:

— Для нас гэтыя дні напоўнены асаблівым зместам, няхай знешне гэта і не кідаецца ў вочы. У тэатры адбылася падзея, якой суджана адыграць важную ролю ў лёсе калектыву: мы стварылі студыю. Праблема папаўнення кадрамі акцёраў мае для кожнага тэатра вялікае значэнне, у нашых жа ўмовах гэта праблема нумар адзін.

Мы просім Барыса Міхайлавіча расказаць, якія спектаклі пакажа тэатр гледачам у пачатку сезона.

— Мы пачынаем сезон «Лявоніхай» па п'есе П. Данілава, — сказаў галоўны рэжысёр. — Спектакль гэты працягвае традыцыйную лінію тэатра, пачатую «Несцеркам». Наступным ідзе «Злачынства і пакаранне» — наша прэм'ера. У нас ёсць ужо вопыт сцэнічнага ўвасаблення твораў Дастаеўскага, вопыт, у многім павучальны. Працуючы над новай п'есай, мы ўлічылі ўрокі папярэдняй пастаноўкі — п'есы па раману «Прыніжаныя і зняважаныя». Спадзяёмся, новы спектакль спадабаецца гледачам. Калектыў шмат працаваў над ім. Упершыню ў галоўнай ролі выступае Фама Варанецкі — нядаўні выпускнік Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута.

Напярэдадні адкрыцця сезона ў тэатры закончана работа над спектаклем па п'есе Л. Хэлман «Лэдзі і джэнтльмены». Пастаноўку ажыццявіў рэжысёр Ю. Собалеў. Гэта другая прэм'ера коласаўцаў. Да канца кастрычніка будзе паказана і трэцяя — «Пад адным небам» па п'есе А. Маўзона.

Віцебскі тэатр у першай палавіне кастрычніка паедзе на гастролі ў Маскву. Мы просім галоўнага рэжысёра больш падрабязна расказаць аб гэтай паездцы.

У сталіцу калектыў выязджае 9 кастрычніка на пяць прадстаўленняў. Масквічы ўбачаць «Крыніцы» па п'есе І. Шамякіна і Ю. Шчарбакова і «Лявоніху» П. Данілава. Абодва спектаклі пастаўлены заслужаным дзеячом мастацтва Ю. Б. Шчарбаковым—былым галоўным рэжысёрам тэатра.

— Пасля Масквы, — гаворыць Барыс Міхайлавіч, — мы пачнём работу над драмай чэшскага пісьменніка Мілана Кундэра «Паварот ключа», якая з вялікім поспехам ідзе на радзіме аўтара. Гэта п'еса аб месцы чалавека ў жыцці, аб абавязку перад таварышамі, аб тым, што баец не мае права пакідаць строй. Хоць дзеянне п'есы і разгортваецца ў гады гітлераўскай акупацыі Чэхаславакіі, праблемы, пастаўленыя ёю, актуальныя і ў нашы дні.

Тэатр зацікавілі п'есы на сучасныя тэмы — «Першая старонка» Н. Івантэр і «Як жывеш, хлопец» В. Пановай. Яшчэ не вырашана, на якой коласаўцы спыняць свой выбар. Магчыма, гледачы ўбачаць абодва гэтыя творы, бо ў тэатры існуе практыка пазапланавай падрыхтоўкі спектакляў артыстамі.

Б. Браганцаў гаворыць аб вясёлым вадэвілі на калгасную тэму беларускага пісьменніка М. Сергіевіча «Смех дый годзе», які ўключан у рэпертуар і будзе паказан у гэтым сезоне.

— Хочам таксама паставіць «Гібель эскадры» Карнейчука, — дадае рэжысёр.

— Але ж у гэтым спектаклі сорак мужчын і адна жанчына. Што будуць рабіць вашы актрысы?

Наш субяседнік прымае жарт. Аказваецца, у рэпертуар тэатра ўключана п'еса Гарсіа Лоркі «Дом Бернардзіны Альбы». У ёй пяць жаночых роляў і адна мужчынская. Актрысы, такім чынам, не будуць «беспрацоўнымі»...

— Аднак галоўнае, што хвалюе ўвесь калектыў, — дадае Б. Браганцаў, — гэта выступленні на сцэне Крамлёўскага тэатра. Яны нібы пралог да нашага новага тэатральнага сезона. Хвалюючы, натхняючы пралог.

**Наш кар.**

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Існуючая сістэма тэматычнага планавання фільмаў мае і іншыя заганы. Напрыклад, у плане нашай студыі бягучага года меўся фільм аб вытворчасці бавоўны ў сярэдняй Азіі. Былі і іншыя тэмы, якія не маюць дачынення да нашай рэспублікі. У той жа час да нас на здымкі нашых беларускіх тэм часта прыязджаюць здымачныя групы са студый іншых рэспублік.

Часта бывае так: рэжысёр, аператар ці сцэнарыст прапануе тэму, падказаную жыццём. Ён яе перажыў і прадумаў. Яна яго вельмі хвалюе. Студыя ўключае заяўку ў тэматычны план. А потым, калі гэты план узгадняецца ў шматлікіх інстанцыях, гэтую заяўку выкрэсліваюць... па зусім незразумелых прычынах. Так, напрыклад, рэжысёр М. Гарбуноў прапанаваў летась распрацаваную ім на канкрэтным матэрыяле тэму аб прыкметных рысах камунізма ў нашым жыцці. Ён гарэў жаданнем зрабіць добры дакументальны нарыс на гэтую тэму. Але ў план вытворчасці фільмаў яна не ўвайшла.

На працягу двух год я дамагаюся ўключэння ў план вытворчасці нашай студыі фільма аб радавым партыі, аб камуністе, маючы на ўвазе канкрэтных людзей з выдатнай біяграфіяй. Яны прайшлі барацьбу ў падполлі ў гады гаспадарання польскіх паноў, удзельнічалі ў гераічнай барацьбе іспанскага народа з фашызмам і ў партызанскай барацьбе на Беларусі ў гады Айчыннай вайны. І сёння яны — на пярэднім краі барацьбы нашага народа за ўздым калгаснай вытворчасці. Я маю на ўвазе праслаўленага старшыню калгаса Героя Савецкага Саюза Арлоўскага на Магілёўшчыне і генерала ў адстаўцы Героя Савецкага Саюза Коржа на Палессі, з якімі мне давялося сустракацца і чыё жыццё, аддадзенае партыі, выклікала да іх усеагульную павагу.

Можна прывесці і іншыя прыклады. З іх вынікае простая думка: у вытворчых і тэматычных планах трэба заўсёды мець дастатковы рэзерв, які дазволіў бы студыі аператыўна адгукацца на важнейшыя тэмы, што ставяцца жыццём.

Ідуць напружаныя дні вучобы ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. На гэтым здымку вы бачыце педагога па класу фартэпіяна Ірыну Аляксандраўну Цвятаеву са студэнткамі Ларысай Гусарэвіч і Анжэлай Годышавай на занятках.

Фота Ул. КРУКА.

# ПАЭЗІЯ ФАКТА

Ўздзеянне добрага дакументальнага ці навукова-папулярнага фільма на гледача не ўступае фільму мастацкаму. Але іншы раз бывае і так, што наш фільм аказваецца халастым выстралам. Шуму многа, ёсць адзнака ў выкананні плана, а карысці мала. І кожны раз, аналізуючы прычыны такой няўдачы, пераконваешся, што ўсе беды пачынаюцца з дрэннага сцэнарыя. Менавіта сцэнарны ўчастак — найслабейшы ў працы нашай студыі. Патрабаванні да якасці сцэнарыяў, да іх зместу і кінематаграфічнага вырашэння ўсё яшчэ заніжаныя. Рэдактарскі калектыў студыі, які ўзначальвае Ю. Багушэвіч, не аказвае неабходнага ўплыву і дапамогі аўтарам у працэсе напісання сцэнарыя. Часта слабыя ці непрыгодныя сцэнарыі здаюцца ў вытворчасць здымачным групам, абмінаючы мастацкі савет студыі, а іншы раз і наперакор думцы савета, як гэта было з фільмам «Маладыя кукурузаводы». Амаль тое самае адбылося і з дакументальным нарысам «Апошні хутар», які быў запушчаны ў вытворчасць па слабому ў ідэйна-мастацкіх адносінах сцэнарыю. Адзняты па ім матэрыял таксама аказаўся заганным. Спатрэбілася значная затрата сіл, сродкаў і часу на перадумку многіх эпізодаў і пошукі новага вырашэння фільма.

Кожны раз пры запуску ў вытворчасць такога сцэнарыя прымяняецца гнуткая фармуліроўка аб яго дапрацоўцы рэжысёрам і аўтарам у працэсе стварэння фільма. Але, як правіла, ні аўтар, ні сцэнарны аддзел, як толькі сцэнарый трапляе ў вытворчасць, да яго ўжо не вяртаюцца.

Некаторыя сцвярджаюць, што фільм можна зрабіць і зусім без сцэнарыя, бо ўсё роўна, маўляў, гатовы фільм часта не падобны на сцэнарый. Гэта няправільная думка. Ніхто не асмеліцца сцвярджаць, што можна пабудаваць завод ці нават звычайны дом без праекта або запусціць у вытворчасць любую машыну без чарцяжоў ці з дрэннымі, недапрацаванымі, недакладнымі чарцяжамі. Які ж твор мастацтва можна стварыць без задумы, без акрэсленай кампазіцыі, выкладзенай ці не выкладзенай на паперы...

Практыка паказала, што нават тады, калі змест дакументальнага фільма дыктуецца падзеяй і падпарадкоўваецца зместу гэтай падзеі, неабходна папярэдняя дэталёвая распрацоўка плана пабудовы фільма, здымачных планаў і заданняў аператарам, прадуманых прыёмаў сувязі, асобных эпізодаў, іх музычнага афармлення і г. д. Тым больш гэта датычыць тых дакументальных фільмаў, якія будуюцца не на хранікальных падзеях.

Загадам Міністэрства культуры СССР дазваляецца запуск кароткаметражных дакументальных фільмаў у вытворчасць па пашыраным лібрэта ці па заяўцы аўтара, — пры ўмове яго ўдзелу ў здымках. Гэты метад работы магчымы толькі пры наяўнасці вопытнага высокакваліфікаванага сцэнарыста, рэжысёра і аператара фільма, і ў нашых умовах не заўсёды прыймальны. Дазвол на яго павінен давацца толькі мастацкім саветам студыі ў кожным канкрэтным выпадку.

Дарэчы, мастацкі савет павінен абмяркоўваць на сваіх пасяджэннях кожны сцэнарый да запуску яго ў работу. Савет трэба склікаць не ад выпадку да выпадку, а сістэматычна, у поўным яго складзе і не толькі па пытаннях сцэнарыя, але і па абмеркаванню матэрыялаў фільмаў у працэсе іх стварэння, — не тады, калі яны ўжо выпушчаны і трэба толькі вызначыць ацэнку яго якасці і катэгорыю аплаты.

Адна з важнейшых і складаных праблем дакументальнага кіно — праблема паказу ў ім чалавека. Тут няма акцёра. Вобраз героя ствараецца праз паказ самога героя, нашага сучасніка. Тэхніка здымак патрабуе яркага святла, складанай здымачнай і гукавой апаратуры і іншых тэхнічных сродкаў. Усё гэта стварае надзвычайную абстаноўку і скоўвае чалавека. Таму часта скажаюцца яго знешняе аблічча, паводзіны і характар. Ад рэжысёра і аператара патрабуецца шмат умення і такту, каб у рабоце з людзьмі пераадолець умоўнасць кіназдымкі. Яны павінны добра ведаць чалавека і галоўнае — не дыктаваць яму схему паводзін па раней вызначанаму шаблону.

Прыгадваецца, як адзін з нашых рэжысёраў кіраваў здымкамі на адной з будоўляў, дзе рабочыя віталі таварыша, які вярнуўся з партыйнага з'езда. Моцнымі поціскамі рук, сяброўскімі ўсмешкамі сустрэлі будаўнікі свайго дэлегата з Масквы. Яны абступілі яго, распытвалі аб уражаннях, з цікавасцю слухалі. Але рэжысёру гэта здалося недастатковым. Шмат разоў прымушаў ён дэлегата паўтараць пад'ём па лесвіцы на рыштаванні, а рабочых перадаваць яму кветкі, пакуль усё не ўклалася ў рэжысёрскую схему. І калі аператар пачаў здымаць гэту сцэну, твары людзей былі ўжо сумнымі, поснымі і раздражнёнымі, усмешкі — штучнымі, і прагляд на экране даказаў непрыгоднасць такога метаду здымак. Сюжэта аб сустрэчы дэлегата не атрымалася.

Прыгадваю і другі, супрацьлеглы прыклад.

Рэжысёр Гарбуноў і аператар Масальскі, здымаючы эпізод аб сустрэчы двух удзельнікаў гераічнай абароны Брэсцкай крэпасці, якія не бачыліся каля дваццаці год, арганізавалі справу так, што героі, прыехаўшы ў горад, жылі ў розных гасцініцах і сустрэліся на месцы баёў толькі ў час здымкі. Дзякуючы гэтаму ўдалося зняць іх сапраўдныя абдымкі і шчырыя слёзы радасці ад гэтай сустрэчы. І гэтыя кадры хвалююць. У іх на экране сапраўдныя чалавечыя пачуцці, якім верыш.

Праблема паказу чалавека ў фільме мяне асабіста надзвычай усхвалявала ў адной з апошніх работ — у двухчастковым нарысе аб рабочай сям'і Касабуцкіх. Тры пакаленні членаў гэтай сям'і — больш чым два дзесяткі чалавек — працуюць на Мінскім аўтазаводзе. Сцэнарый М. Бярозкі патрабаваў паказу багатага шматграннага духоўнага свету многіх членаў сям'і праз іх сутыкненні з навакольнай рэчаіснасцю — у вытворчасці, у грамадскім жыцці і ў быце. Гэтую задачу можна было вырашыць лепш за ўсё метадам рэпартажных здымкаў, арганізоўваючы падзеі. Але мы адмовіліся ад «арганізацыі», бо за ёй на экран заўсёды ідзе няпраўда. Мы ахвяравалі выяўленчым бокам кінакадраў і падпільноўвалі найбольш характэрныя эпізоды з натуральнага жыцця. Здымкі рабіліся з мінімальнай колькасцю асвятлення, на плёнцы высокай адчувальнасці, што давала магчымасць кінааператару заставацца амаль незаўважаным у час той ці іншай падзеі. Такім чынам удалося зняць сапраўдныя чалавечыя пачуцці, жывыя вочы і твары, натуральныя паводзіны.

Рэпартажны прынцып адбору непасрэдных падзей магчымы толькі пры ўмове добрага папярэдняга знаёмства з жыццём героя, пра якога робіцца фільм. Здымкі «з наскоку», без дастатковага ведання і назірання, без эпізодаў, падказаных жыццём, не даюць добрых вынікаў. Так, малады і здольны аператар Осіпаў, які добра паказаў сябе на здымках нарыса «Марат Казей», спрабуючы з наскоку зняць для кіначасопіса партрэт жанчыны — віцебскага ўрача і педагога, пацярпеў творчую няўдачу. Ён пабудаваў сюжэт з чатырох эпізодаў: у акружэнні студэнтаў урач-педагог ідзе на вучобу; урач наглядае за аперацыяй, якая праводзіцца студэнтамі; чытае лекцыю ў цэху прадпрыемства; прымае дома гасцей за шклянкай чаю. Гэтыя эпізоды аператар зняў у сюжэце, захаваўшы толькі знешнюю тканіну задуманага дзеяння. Унутры эпізодаў няма ніводнай рыскі, якая характарызавала б урача. Вось, напрыклад, эпізод у аперацыйнай. Усё вельмі спакойна, ніякага напружання. Спакой, які перарастае ў абыякавасць. А што, калі б аператар падглядзеў сумненні ці памылку студэнта ў час аперацыі, каб урач-педагог своечасова прыйшла яму на дапамогу і забяспечыла тым самым шчаслівы выхад аперацыі. Як бы па-новаму засвяціўся гэты эпізод, узбагачаны паглыбленым зместам і чалавечымі пачуццямі, як узрасла б сіла яго ўздзеяння на гледача. Але гэтага не здарылася ні ў гэтым, ні ў іншых эпізодах. І сюжэт аказаўся толькі схемай, а не стаў сапраўдным партрэтам чалавека.

Лёс кожнага фільма далёка не абыякавы яго стваральнікам. Сапраўднае задавальненне сваёй працай можна адчуць толькі тады, калі фільм даходзіць да гледача і прымаецца ім, калі ў сувязі з гледачом востра адчуваеш кожную творчую ўдачу і памылку. Выходзячы з іх, набіраешся сіл для новай работы. А лёс у фільмаў бывае розны... Адны з іх хутка ўступаюць у жыццё і служаць людзям на ўсю сваю сілу, другія з цяжкасцю прабіваюцца на экран. Чым вызначаецца гэты лёс? Адказ, здаецца, адзіны: якасцю самога фільма. Але, на жаль, гэта не заўсёды так. Добрую ацэнку атрымаў, напрыклад, кінанарыс нашай студыі «Дом на праспекце». Ён створан у канцы 1960 года. А трапіў на саюзны экран толькі ў 1962 годзе. Добры навукова-папулярны фільм аб развядзенні рыбы ў сажалках «Блакітная цаліна», створаны ў пачатку 1961 года, яшчэ і да гэтага часу не выйшаў на саюзны экран. Гэты спіс можна было б прадоўжыць. У чым жа прычыны? Іх шмат. Па-першае, адказнасць самой студыі за фільм абмяжоўваецца часам здачы яго на мясцовы экран або заказчыку. Студыя не мае матэрыяльнай зацікаўленасці ў тым, каб яе фільмы ішлі на саюзны экран. Ёсць і іншыя прычыны.

Яшчэ горш абстаяць справы з так званымі заказнымі фільмамі. Многія з іх амаль не даходзяць да гледача. Назаву, да прыкладу, фільм «Новыя меліярацыйныя машыны» ў 4-х частках, створаны ў 1961 годзе, з дапаўненнямі і перамантажом па заказу Міністэрства сельскай гаспадаркі Беларусі. У ім расказваецца аб асушэнні і асваенні балот, аб новай тэхніцы і тэхналогіі, распрацаванай нашымі вучонымі для гэтай мэты і аб эканамічным эфекце яе выкарыстання на вопыце канкрэтных гаспадарак нашай рэспублікі. Гэты фільм быў аддрукаван усяго ў некалькіх копіях, якія Інстытут механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі нечарназёмнай зоны СССР выкарыстоўвае для паказу на навуковых канферэнцыях у нас і ў краінах сацыялістычнага лагера за рубяжом. Гэты фільм не быў аддрукаван для кінапракату і не дэманстраваўся на экранах нашай рэспублікі. Чаму? Незразумела.

Заказныя фільмы наогул друкуюцца лічанымі копіямі і глядач іх амаль не бачыць. Гэта вельмі не па-гаспадарску. Калі тэма заслугоўвае экранізацыі, і фільм ужо закончаны (няважна на чые сродкі — усё роўна гэта народныя сродкі), ён павінен дайсці да гледача.

У лістападзе гэтага года адбудзецца першы, устаноўчы з'езд Саюза кінаработнікаў нашай рэспублікі. На ўвесь рост паўстануць на ім пытанні паляпшэння якасці нашых фільмаў і ўсёй нашай работы. Творчыя, тэхнічныя і арганізацыйныя праблемы дакументальнай і навукова-папулярнай кінематаграфіі Беларусі павінны па праву заняць сур'ёзнае месца ў рабоце з'езда. Іх вырашэнне зробіць плённы ўплыў на якасць нашых фільмаў, будзе спрыяць умацаванню нашай сувязі з жыццём народа.

# ДЫПЛОМЫ ЎРУЧАНЫ

У Мінску закончыўся трэці рэспубліканскі агляд аматарскіх фільмаў, які праводзіла Міністэрства культуры БССР, Белсаўпроф, аргбюро работнікаў кінематаграфіі, ЦК ЛКСМБ і Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па радыёфікацыі і тэлебачанню.

На агляд былі прадстаўлены 22 аматарскія фільмы кінастудыі і асобных кінааматараў. Большасць карцін, падрыхтаваных самадзейнымі кінааматарамі, прысвечаны працы і жыццю савецкіх людзей.

Аргкамітэт агляду прысудзіў дыпломы лепшым кінафільмам і асобным кінааматарам.

Фільмы «Пачатак шляху» кінастудыі «Зорачка» Палаца культуры прафсаюзаў і кіначасопіс «Во славу Родины» № 1, 1962 года студыі акруговага Дома афіцэраў адзначаны дыпломамі першай ступені і рэкамендаваны для паказу на рэспубліканскі экран.

Дыпломам другой ступені за фільм «Творцы новага» ўзнагароджана аматарская студыя Дома тэхнікі Беларускай чыгункі. На аглядзе ўпершыню быў прадстаўлен аматарскай кінастудыяй Брэсцкага інстытута ўдасканальвання настаўнікаў каляровы фільм «Горад над Бугам». Ён удастоены дыплома трэцяй ступені.

Аргкамітэт агляду ўзнагародзіў дыпломамі першай і другой ступені лепшыя работы індывідуальных кінааматараў. Фотакарэспандэнт баранавіцкай газеты «Чырвоная звязда» Н. Бялюк за сюжэт «Да самага сіняга мора» ўзнагароджан дыпломам першай ступені.

За лепшую рэжысёрскую работу ў кінафільме «Комплексная механізацыя вырабу мацавання» кінааматар Б. Хадакоў стваральнікі сцэнарыя В. Акулава і Г. Мускатаў узнагароджаны дыпломамі другой ступені.

Цікавую работу «Пералом шыйкі бядра» прадставіў урач Магілёўскай абласной бальніцы М. Ільінаў. За лепшую аператарскую работу ён удастоен дыплома першай ступені.

Стваральнік фільма «Дзень у лагеры» — выкладчык Гродзенскага дарожна-будаўнічага тэхнікума В. Гаручін атрымаў дыплом другой ступені.

Заахвочвальнымі дыпломамі ўзнагароджаны Е. Копышаў, В. Нічыпар, В. Чыгэшнікаў, Е. Татараў, В. Станкевіч і А. Міхельсон.

На другім усесаюзным аглядзе аматарскіх фільмаў, які адбудзецца ў кастрычніку гэтага года ў Маскве, будуць паказаны лепшыя кінафільмы другога і трэцяга рэспубліканскіх аглядаў.

## Сярод кніг

# З ВЫТОКАЎ НАРОДНЫХ

Сувязь беларускай прафесіянальнай музыкі з народнымі вытокамі на працягу ўсёй гісторыі савецкага мастацтва заўсёды была трывалай і моцнай. Амаль усе кампазітары нашай рэспублікі ў той ці іншай ступені выкарыстоўвалі ў сваёй музыцы лепшыя ўзоры цудоўнага беларускага фальклору. І гэта мела велізарнейшы ўплыў на фарміраванне іх творчага аблічча.

Так, дзякуючы менавіта шырокаму выкарыстанню музычнага фальклору адзін з першых твораў беларускай прафесіянальнай музыкі — «Сімфаньета» М. Чуркіна заваявала вялікую папулярнасць у слухачоў. Пры ўсёй знешняй сваёй прастаце «Сімфаньета» вылучаецца народнасцю, яскравым нацыянальным каларытам. Такую ж папулярнасць набыла ў свой час «Сюіта на тэмы беларускіх народных песень» для сімфанічнага аркестра А. Туранкова і цэлы рад іншых твораў — ад інструментальных мініяцюр да вялікіх балетных і оперных палотнаў.

Кожны з кампазітараў пасвойму асэнсоўваў і скарыстоўваў народную песню ў сваёй творчасці. І музыказнаўчы аналіз усяго праробленага ў гэтай галіне можа даць многа цікавага і важнага, дапамагчы зразумець законы развіцця беларускага музычнага мастацтва. Вось чаму выдадзеная сёлета брашура С. Нісневіч «Беларуская народная песня ў музычнай драматургіі нацыянальных опер і балетаў» з'яўляецца, на маю думку, карыснай і патрэбнай. Музыказнаўца паставіла перад сабой складаную і нялёгкую задачу сабраць і сістэматызаваць усе прыклады выкарыстання ў беларускіх операх і балетах народнай песні. І трэба сказаць, што С. Нісневіч зрабіла гэта надзвычай фундаментальна і добрасумленна.

Брашура коратка знаёміць чытача з працэсам фарміравання і станаўлення беларускага нацыянальнага тэатра, яго сувязямі з народнай музычнай творчасцю. Купальскія ігрышчы, калядныя гульні, вясельныя абрады з пэўнымі элементамі тэатралізацыі; інтэрмедыі школьных драм XVI стагоддзя, лялечны тэатр «батлейка», беларускі народны тэатр Ігната Буйніцкага і, нарэшце, музычныя спектаклі Першага беларускага дзяржаўнага тэатра — вось тая гістарычная глеба, якая падрыхтавала выхад у свет першых беларускіх опер: «Вызваленне працы» М. Чуркіна і «Тарас на Парнасе» М. Аладава. Гэтыя першынцы прафесіянальнага музычнага мастацтва Беларусі, што былі трывала звязаны з народнай песняй, адкрылі цудоўную традыцыю такіх сувязей для ўсіх наступных оперных і балетных твораў беларускіх аўтараў.

У сваёй працы С. Нісневіч падрабязна і грунтоўна разглядае выкарыстанне беларускіх народных песень і танцаў у дзесяці оперных і балетных творах нашых кампазітараў. Аўтар не толькі прыводзіць прыклады прамога цытавання народнай песні ў музычнай тканіне спектакляў, але надзвычай грунтоўна апісвае спосабы выкарыстання гэтых песень у асобных арыях, хорах, ансамблях, танцавальных эпізодах, аркестравых нумарах. Разглядаецца і «тэхналогія» выкарыстання фальклорнага матэрыялу ў асобных операх: прыёмы інструментоўкі, змены ў метрарытме, танальныя планы, падгалосачная распрацоўка, прымяненне арганных пунктаў і г. д. Не меней грунтоўна разглядаюцца і тыя выпадкі, калі арыгінальны тэматычны матэрыял інтанацыйна блізкі да народнай музыкі або створаны пад непасрэдным уздзеяннем той ці іншай народнай песні альбо танца. Акрамя гэтага аўтар кніжкі аддае вялікую ўвагу тым харавым і аркестравым эпізодам опер, у якіх кампазітары карыстаюцца прыёмамі беларускага народнага шматгалосся і народна-інструментальнай музыкі.

У заключным раздзеле даследавання С. Нісневіч робіць жанравы аналіз песень, скарыстаных у беларускай опернай творчасці (абрадавых, жніўных, вясельных, карагодных бытавых, лірычных, рэкруцкіх, жартоўных і г. д.), дае рад прыкладаў іх удалага ці няўдалага творчага пераасэнсавання альбо пашырэння іх жанравых межаў. Яна прыводзіць выпадкі, калі занадта частае карыстанне мінорнымі народнымі трыхорднымі папеўкамі надае манатоннасць музыцы («Кастусь Каліноўскі» Д. Лукаса), ці калі кампазітар, занадта наблізіўшы сваю гарманічную мову да народна-інструментальнага гучання, міжволі збядняе сваю музыку («Полька» ў «Дзяўчыне з Палесся» Я. Цікоцкага). На аснове сабранага матэрыялу аўтар робіць вывад, што беларускія кампазітары ў сваіх сцэнічных творах «... амаль зусім абышлі вялікую песенную спадчыну герoіка-патрыятычнага характару часоў народных паўстанняў і сучасны гераічны эпас перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Так, напрыклад, не знайшлі адлюстравання ў оперы «Кастусь Каліноўскі» песні пра гэтага героя, не выкарыстаны партызанскія песні ў оперы «Дзяўчына з Палесся». Тое ж можна сказаць і аб операх «Міхась Падгорны» і «У пушчах Палесся», дзе слухач у праве чакаць хораў, якія абагульняюць інтанацыі народнай рэвалюцыйнай песні пачатку XX стагоддзя, перыяду грамадзянскай вайны і выражаюць настроі народных мас».

Усе гэтыя і многія іншыя вывады, якія робіць С. Нісневіч, гавораць аб тым, што аўтар здольна ўзнімаць важныя праблемныя пытанні развіцця беларускага музычнага мастацтва. У кніжцы ёсць багата нотных прыкладаў, якія ўдала ілюструюць тэкст і сведчаць аб надзвычай добрасумленнай і стараннай рабоце над велізарнай колькасцю музычнага матэрыялу, даследаванага аўтарам.

Калі была змешчана ў «Тэматычным плане Дзяржаўнага выдавецтва БССР на 1961 год» анатацыя на кніжку С. Нісневіч, то ў ёй, у прыватнасці, гаварылася, што праца папулярная па форме і прызначаецца для універсітэтаў культуры, музычных навучальных устаноў і аматараў музыкі. А атрымалася не зусім так. Ускладнёная мова кніжкі, вялікая колькасць чыста прафесіянальных музычных тэрмінаў ды зрэшты і ўся манера выкладання матэрыялу гавораць за тое, што гэта не папулярная брашура, а сур'ёзная музыказнаўчая праца. Вось як, напрыклад, апісвае аўтар уступ да пятай карціны балета «Князь-возера» В. Залатарова: «...Тэрцава-квартавыя інтанацыі набліжаюць гэтую тэму да сучаснай народнай песні (у традыцыйным фальклоры часцей кварта-тэрцавая паслядоўнасць). Народны характар тэме надаюць і фрыгійскі лад і плагальныя абароты, яны ж надаюць усёй музыцы некалькі суровы велічны характар. Фактура выкладу тут таксама блізкая народнай, у прыватнасці, харавому шматгалоссю з унісонным заканчэннем».

Вядома, прафесіяналізм мовы і навуковая глыбіня працы С. Нісневіч не толькі не з'яўляецца недахопам, а наадварот, надаюць ёй асаблівую каштоўнасць як грунтоўнаму музыказнаўчаму даследаванню (якіх, дарэчы, у нас не так ужо і многа пішацца). Але калі лічыць, што «Беларуская народная песня ў музычнай драматургіі нацыянальных опер і балетаў» — праца навуковая, то і патрабаванні да яе павінны быць больш строгія, чым да папулярнай брашуры.

Пытанні аб тым, як выкарыстоўваць фальклор у музычнай творчасці, не раз служылі прадметам гарачых дыскусій у Саюзе кампазітараў і маюць даволі вялікую гісторыю. Цяпер ужо, напэўна, не знойдзецца ніводнага аўтара, які б уводзіў у сваю музыку народныя песні ў такім выглядзе, як яны бытуюць у народзе, механічна капіраваў бы іх. Выкарыстанне народнапесеннага матэрыялу вымагае зараз глыбокага творчага пераасэнсавання, актыўнага творчага падыходу да яго. Але пры гэтым нельга выходзіць і за рамкі, за якімі народная песня пачынае губляць свае нацыянальныя рысы. Так, напрыклад, выклікалі даволі бурныя спрэчкі занадта смелыя апрацоўкі беларускіх народных танцаў «Бульба», «Кола» і «Мяцеліца», зробленыя Я. Глебавым у балеце «Мара».

Таму, як мне здаецца, робячы грунтоўны і прафесіянальны аналіз усіх тэхналагічных прыёмаў выкарыстання народнай песні ў сцэнічных творах, С. Нісневіч павінна была б зрабіць і пэўныя вывады аб тым, якія з гэтых апрацовак найбольш мастацкія, найбольш сучасныя.

У адным месцы музыказнаўца робіць вывад, што недахопам некаторых народных хораў у беларускіх операх з'яўляецца іх статычнасць, адсутнасць жывой народнай масы. А праз дзве старонкі яшчэ піша, што «...у радзе выпадкаў усё ж назіраецца аднабаковае выкарыстанне народных мелодый, няпоўны ахоп характэрных рысаў народнай творчасці і выканаўства. Часта боязь выйсці за межы пераймальнасці і стылізацыі народнай музыкі прыводзіць да сціпласці гарманічнай мовы, да адсутнасці тэматычнай распрацоўкі, да недастатковага выкарыстання паліфоніі і да раду іншых істотных недахопаў». Аднак гэтыя справядлівыя папрокі, на жаль, не маюць пэўнага адрасу і таму павісаюць у паветры.

Не зусім аднолькава адносіцца аўтар і да разбору музычнага матэрыялу асобных опер. Так, у параўнанні з другімі, надзвычай мала сказана аб операх «Марынка» Р. Пукста і «Яснае світанне» А. Туранкова. Не разглядае аўтар у сваёй працы опер «Андрэй Касценя» М. Аладава і «Машэка» Р. Пукста. Абедзве яны, хаця і не ўбачылі святла тэатральнай рампы, але ў выглядзе мантажоў гучаць па радыё, маюць шмат цікавага, мастацкага, своеасаблівага ў выкарыстанні народна-песеннага матэрыялу і складаюць пэўную старонку гісторыі беларускага музычнага мастацтва. Пры гэтым хочацца дадаць, што «Машэка» нават ні разу не ўпамінаецца ў тэксце.

І ўсё ж мне здаецца, праца «Беларуская народная песня ў музычнай драматургіі нацыянальных опер і балетаў» з'яўляецца каштоўным укладам у беларускае музыказнаўства і стане настольнай кнігай для студэнтаў і педагогаў музычных навучальных устаноў, прафесіяналаў-музыкантаў, кампазітараў і ўсіх, хто сур'ёзна і грунтоўна вывучае гісторыю беларускага музычнага мастацтва.

**Д. ЖУРАЎЛЕЎ.**

С. Нісневіч. «Беларуская народная песня ў музычнай драматургіі нацыянальных опер і балетаў». Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Мінск. 1962

# КОЛАСАЎСКІЯ ВЕЧАРЫ

Музей Якуба Коласа правёў два літаратурныя вечары, прысвечаныя выдатнаму беларускаму песняру. Адзін з іх адбыўся ў Палацы культуры будтрэста № 1. Даклад аб творчай дзейнасці Якуба Коласа зрабіў навуковы супрацоўнік музея М Жыгоцкі. Паэты Н. Гілевіч, Ул. Паўлаў, І. Калеснік, С. Шушкевіч прачыталі вершы, прысвечаныя народнаму песняру. Аб жыцці Коласа шмат цікавага расказаў брат паэта Іосіф Міхайлавіч Міцкевіч. У вечары прыняў удзел сын Я. Коласа Д. К. Міцкевіч.

Коласаўскі вечар адбыўся таксама ў Інстытуце механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі. Удзельнікі вечара прагледзелі таксама кінафільм «Першыя выпрабаванні», пастаўлены па трылогіі Я. Коласа «На ростанях».

